Дэгіэль, Р. [Рэцензия] / Р. Дэгіэль, Л. А. Козік // Российские и славянские исследования: науч. сб. Вып. 6 / редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. — Минск БГУ, 2011. — С. 322 – 323. — Lucyna Kulińska. Działalność terrorystyczna i sabotażowa nacjonalistycznych organizacji ukraińskich w Polsce w latach 1922—1939. Kraków, 2009.

**LUCYNA KULIŃSKA. Działalność terrorystyczna i sabotażowa nacjonalistycznych organizacji ukraińskich w Polsce w latach 1922—1939.** Kraków : Fundacja Centrum Dokumentacji Czynu Niepodległościowego, Księgarnia Akademicka, 2009. 744 s.

Як заўважае Л. Кулінськая, мэтай яе кнігі «Тэрарыстычная і сабатажная дзейнасць украінскіх нацыяналістычных арганізацый у Польшчы ў 1922— 1939 гг.» з'яўляецца паказ прычын і наступстваў тэрору з боку ўкраінскіх нацыяналістычных арганізацый, адказ на пытанне, які бок вінаваты ў дрэнным развіцці польска-ўкраінскіх адносін, праверка «тэзіса аб непасрэднай прычынна-выніковай сувязі паміж польскай нацыянальнай палітыкай у міжваенны перыяд і забойствам палякаў украінскімі нацыяналістамі ў гады Другой сусветнай вайны» (с. 11). Храналагічна даследаванне ахоплівае перыяд з першага выступлення Украінскай ваеннай арганізацыі (УВА) супраць Польшчы ў 1922 г. і да пачатку Другой сусветнай вайны.

У сямі главах кнігі аўтар раскрывае генезіс і сацыяльны падмурак скрайняга ўкраінскага нацыяналізму, дае характарыстыку УВА — АУН у 1920-я гг., робіць агляд асноўных тэрарыстычных акцый у 1920— 1930-я гг., паказвае дзейнасць камуністычных атрадаў і выкрывае іх сувязь з украінскімі нацыяналістамі, аналізуе прэвентыўныя дзеянні польскіх улад.

Дасягненне вызначанай Л. Кулінськай мэты ўяўляе пэўную цяжкасць, у першую чаргу, з пункту гледжання знаёмства з разнастайнымі архіўнымі крыніцамі. Вялікая колькасць дакументаў (рапарты, данясенні, аналіз) была засакрэчана санацыйнымі ўладамі. Больш таго, сабраны ў міжваенны перыяд матэрыял пра дзейнасць украінскіх нацыяналістаў няшчадна знішчаўся нямецкімі акупацыйнымі ўладамі, а потым і пасляваеннымі ўладамі ПНР. У гэтай сувязі аўтар абапіраецца на розныя групы крыніц: грамадзянскія акты, якія знаходзяцца ў Архіве актаў новых (ААН) у Варшаве і Інстытуце нацыянальнай памяці (ІНП), вайсковыя (з Цэнтральнага вайсковага архіва і Архіва пагранічнай службы), службы бяспекі (Архіў міністэрства ўнутраных спраў, ІНП, ААН), з так званага архіва Данцова (Нацыянальная бібліятэка), успаміны, якія захоўваюцца ў зборах грамадскіх арганізацый — Усходні Архіў Цэнтра «Карта» (Варшава) і архіў Таварыства памяці ахвяр злачынстваў украінскіх нацыяналістаў (Вроцлаў). Сярод замежных калекцый, з якімі працавала Кулінськая, варта назваць матэрыял з Цэнтральнага гістарычнага архіва Украіны і інтэрнэт-выданне Міністэрствам замежных спраў РФ дакументаў пра дзейнасць УВА — АУН. Акрамя гэтага, яна змагла выкарыстаць і супрацьпаставіць публікацыі апалагетаў УВА — АУН з крытычнымі працамі ўкраінскага даследчыка-эмігранта В. Палішчука.

Аўтар праанализавала антыдзяржаўную, тэрарыстычную і сабатажную дзейнасць украінскіх арганізацый у Польшчы ў 1920-я гг. і адзначыла, што сляды актыўнасці першых ваенізаваных атрадаў можна заўважыць ужо вясной 1921 г. Іх наступствам стала так званае «першае выступленне» УВА ў 1922—1923 гг., якое фактычна стала ланцугом тэрарыстычных актаў і сабатажу. Кулінськая прыводзіць дакументальнае пацвярджэнне 303 тэрарыстычных актаў (напады, падпальванне, замахі і г. д.), здзейсненых да канца 1923 г. (с. 161— 173). Пры гэтым аўтар адзначае, што ўкраінскае эміграцкае асяроддзе прызнаецца ў ажыццяўленні каля 600 акцый ва Усходняй Малапольшчы (Галіцыі). Найбольшы розгалас атрымалі ў той час няўдалая спроба ажыццявіць замах на Кіраўніка дзяржавы Ю. Пілсудскага ў Львове (25 верасня 1921 г.) і забойства прыхільніка польска-ўкраінскага яднання прафесара С. Твердахліба (15 кастрычніка 1922 г.). Так званае «другое выступленне» УПА прыйшлося на 1930—1932 гг. Яго прычынай стала незадаволенасць украінцаў зацягнуўшымся эканамічным крызісам. Пры гэтым варта адзначыць, што яно было ўзгоднена з антынямецкай акцыяй Германіі. У пацвярджэнне сваіх слоў аўтар прывяла 43 акцыі сабатажу, праведзеныя ў гэтыя гады. Найбольш гучнымі сталі забойства міністра Т. Галуўкі і напад на паш-

товае аддзяленне ў Грудку Ягелонскім. Эскалацыя тэрору адбывалася і пасля 1933 г., калі былі забіты выпускнік гімназіі Я. Бачынскі, якога АУН абвінаваціла ў супрацоўніцтве з паліцыяй, міністр унутраных спраў палкоўнік Б. Перацкі, дырэктар дзяржаўнай гімназіі з украінскай мовай навучання І. Вабій.

Несумненны інтарэс прадстаўляюць адносіны ўкраінскіх нацыяналістаў з камуністычнымі дыверсійна-тэрарыстычнымі арганізацыямі. Як УВА — АУН, так і Камуністычная партыя Заходняй Украіны (КПЗУ) не прызнавалі падпісаных пасля заканчэння Першай сусветнай вайны міжнародных дамоў і права Польшчы на ажыццяўленне дзяржаўнай улады на тэрыторыі Усходняй Малапольшчы (Галіцыі) і Валыні. Звычайна члены КПЗУ ўваходзілі ў склад сфарміраваных на тэрыторыі СССР дыверсійных груп, дзе былі і нацыяналістычна настроеныя ўкраінцы з Галіцыі, якія пад уплывам абставін апынуліся ў савецкай дзяржаве. Менавіта апошнія дапамагалі ўсталёўваць кантакты з УВА — АУН. Вельмі часта такія дачыненні дэзарыентавалі польскія ўлады, якія некаторыя замахі і акцыі сабатажу першапачаткова прыпісвалі нацыяналістам, а ў сапраўднасці іх ажыццяўлялі камуністычныя групоўкі. Праявай супрацоўніцтва дзвюх сіл была спроба арганізацыі антыпольскага паўстання ва ўсходніх ваяводствах у 1924— 1925 гг. У гэтай сувязі аўтар характарызуе дыверсійна-шпіёнскія структуры, якія дзейнічалі на тэрыторыі Польшчы і падпарадкоўваліся ГПУ СССР, паказвае асобныя групы і апісвае праведзеныя імі акцыі, ускосна закранае і пытанне выкарыстання савецкай уладай дыверсійных акцый беларусаў.

Цікавай праблемай, якую разглядае аўтар, з’яўляецца стаўленне скрайніх украінскіх нацыяналістаў да яўрэяў. Пасля 1933 г. сапраўдным няшчасцем апошніх сталі арганізаваныя напады на іх купцоў ці падпалы. На думку Куліньскай, такія дзеянні ўкраінскіх нацыяналістаў былі цесна звязаны з нацысцкай ідэалогіяй, якая распаўсюджвалася Германіяй, і барацьбой за дамінаванне ў гандлі і рамёствах. Абвешчаны прыхільнікамі УВА — АУН байкот яўрэйскіх купцоў сутыкнуўся з аналагічным заклікам апошніх не купляць украінскіх тавараў. Пік эскалацыі гэтага канфлікту прыйшоўся на 1936 г. У 1939 г. украінскія нацыяналісты шляхам ажыццяўлення тэрарыстычных і сабатажных акцый, збора разведданых і састаўлення спісаў польскіх актывістаў актыўна падтрымалі Гітлера ў падрыхтоўцы нападу на Польскую рэспубліку. 1 верасня 1939 г. з тэрыторыі Славакіі ў Польшчу ўварваўся ўкраінскі атрад Р. Шухевіча, які дайшоў да Самбара і адзначыў свой «баявы» шлях нападамі, пагромамі і забойствамі. Але гэты аспект аўтар падрабязна не разглядае.

Апісваючы дзейнасць украінскіх нацыяналістычных арганізацый, Куліньская паказвае шлях, праз які прайшло маргінальнае асяроддзе УВА, якое налічвала некалькі сотняў чалавек, да АУН, дзе сабраліся некалькі дзясяткаў тысяч чалавек. Важную ролю ў развіцці гэтага руху з пункту гледжання лагістыкі, падрыхтоўкі і фінансавага забеспячэння адыгрывалі Германія, Літва, Чэхаславакія і нават СССР. У сваёй выснове аўтар паказвае кантынуітэт і лагічную сувязь паміж актамі палітычнага тэрору ў міжваенны перыяд і забойствамі УВА — АУН палякаў і прадстаўнікоў іншых народаў у гады Другой сусветнай вайны.

Напрыканцы трэба станоўча ацаніць прыведзены ў кнізе Л. Куліньскай дадатак, куды ўвайшлі дакументы, артыкулы, тэксты прамоў у Сейме. Падкрэслім, што асобую каштоўнасць прадстаўляюць падрыхтаваныя Другім аддзелам Генштаба Войска Польскага матэрыялы пра кіраўніцтва УВА, выступленні міністраў Складкоўскага і Перацкага, фрагмент антышкольнай улёткі АУН, спісы кіраўніцтва УВА — АУН да 1939 г., падрабязныя характарыстыкі ўкраінскіх нацыяналістычных дзеячаў.

**Рафал Дэгіэль,** гісторык аддзела адукацыйных праектаў Фонда «Польска-нямецкае прымірэнне» ў Варшаве

**Л. А. Козік**, дацэнт кафедры гісторыі паўднёвых і заходніх славян БДУ, кандыдат гістарычных навук